# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 29 (647) ГОД XIII 21 ЛІПЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### Пасяджэнне прэзідыума ГП

3-га ліпеня прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ абмяркоўваў праект бюджэту на 1969 год. Паасобныя праўленні аддзелаў прыслалі свае прапановы адносна фінансавага бюджэту будучага года. Гайнаўскі аддзел БГКТ у сваім праекце прадбачыў між іншым пакупку касцюмаў для свайго эстраднага калектыву. Плануе ён таксама ў наступным годзе арганізаваць курс ігры на акардэоне для школьнікаў. Усе прапановы паасобных праўленняў былі разгледжаны.

Прэзідыум ГП пастанавіў значна павялічыць суму грошай на выдавецтва. 26 лютага 1969 года канчаецца трохгадовая кадэнцыя Галоўнага праўлення. У сувязі з гэтым запланаваны значныя сумы на арганізаванне з'езду БГКТ. Праект бюджэту на 1969 год падляжыць зацвярджэнню Міністэрствам унутраных спраў.

### Колькасць экспанатаў павялічваецца

Нядаўна сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк і член прэзідыума Мікола Сэрадзінскі выязджалі ў пошуках цікавых экспанатаў да нашага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Наведалі яны вёску Свірыды ў Бельскім павеце, якая знаходзіцца 5 км ад Бранска. Спаткаліся там з вельмі прыхільнымі адносінамі людзей, якія добраахвотна, бясплатна перадавалі экспанаты прадстаўнікам ГП. Язэп Федарчук падарыў бур з арыгінальнай падстаўкай. Зроблена была гэта прылада бацькам Язэпа Федарчука Аляксандрам у 1925 годзе. У гэтага гаспадара знайшоўся вельмі арыгінальны спуст і званок-плякотка (да кароў). А зноў другі Язэп Федарчук аддаў для музея БГКТ перадок ад воза на драўляных восях. Тут відны спалучэнні польскага і беларускага воза. Перадок гэты зроблены ў 1923 годзе бацькам Язэпа, Сідарам.

Аляксандр Колас перадаў для музея бойку для біцця масла. Зроблена яна на засадзе барабана малатарні. А зноў жорна тут такія былі, якіх дагэтуль у нашых ваколіцах ніхто ніколі не бачыў і пра якія не чуў. Яны зусім лёгкія. А будова іх свярдзёлкава.

Язэп Крыстасюк даў для музея кадлубок для перахоўвання крупы, драўляны малаток, шуфалку для перасыпкі збожжа і ключку для выцягвання скуры.

Кастусь Федарчук падарыў цікавую прыладу азначэння гарызанталяў і перпендзікуляраў.

Са Свірыд прывезена дзевятнаццаць вельмі каштоўных экспанатаў матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва. У гэтым зборы вялікую ролю адыграў Мікалай Сэрадзінскі, які знаў добра асяроддзе і амаль усіх жыхароў Свірыд.

Такім чынам наш этнаграфічны музей папоўніўся новымі цікавымі экспанатамі. А такіх рэдкіх экспанатаў у беларускім музеі Белавежы ёсць ужо шмат: ужо ёсць што аглядаць, ёсць што паказаць шматлікім экскурсіям, якія наведваюць музей. (мх)



# БЕЛАСТОЦКІЯ МАТЫВЫ

(У ТРОХ ЧАСТКАХ)

Беласток памяркоўны, з грымасай прымірэння, як пажылы незнаёмец, не настолькі стары, каб не сцярпець маладых і не так слаўны, каб ведалі яго імя, не самаўпэўнены, мудры жыццём, спакойны. За вакном паўночны вецер, у кватэры майго трыццацігадовага равесніка, Геніка Бароды, міла і ўтульна: ён, Марыся, яго жонка, Ёля, іх дачушка, і я. Усе мы (апрача Ёлі) выраслі на 45-ым кіламетры, паўночна-усходнім.

### Матыў першы. Вострава.

Паўночнае Вострава, паабапал шашы ў Крынках, на самым пачатку гэтага выбрукаванага шва заполянскай канецсакольшчыны, абрубленай лясамі, хаты, прышытыя адна каля адной арнаментальным парадкам на срэбнакаласістым абрусе з беларускім хлебам; там, калі прыслухацца, смех дзяцінства здаецца, і матчыная ласка, і пошум дрэў шыракалістых, і песня ў час вечаровы, і мова мілая сэрцу. Там жыцця палова.

Генік Барода, прыяцель мой сардэчны, нарадзіўся ў 1939 годзе ў Паўночным Востраве (Сакольшчына).

### Матыў другі. Беласток.

Стаў вучнем Будаўлянага тэхнікума ў тыя першыя пяцідзесятыя гады, калі на пажарышчах ля Рыбнага Рынка арганізавана выстаўка тэхнікі, у парку — паказ сельскагаспадарчай культуры (два разы), а Беласток падымецца з руінаў за 60—100 год (плёткі!), і каму вы патрэбны? (зласлівасць у адрас «будаўлянкі»), краўцы зарабляюць добра. У 1956 годзе тэхнік Е. Барода, з яшчэ цёпленькім дыпломам у кішэні, прымае працу ў слыннай беластоцкай «Прамыслоўцы», дванаццаць год таму назад, пры будаўніцтве Фастаўскага баваўнянага камбіната, аднаго з найбольшых у Польшчы, і ад восені нас-

(Працяг на стар. 4)



**24** гады мінула ад гістарычнага прыняцця Маніфеста ПКВН, які абвясціў новы лад, сацыяльную і нацыянальную справядлівасць у нашай краіне. Уладу ўзялі ў свае рукі рабочыя і сяляне і пачалі ажыццяўляць ідэі Ліпеньскага Маніфеста. Адбудоўвалі гарады і фабрыкі, дзялілі людзям панскія маёнткі, змагаліся з рэакцыйным падполлем. І проста не верыцца, што з таго часу прайшло ўжо больш 20 гадоў. Як усё змянілася за гэты кароткі час! Цяпер, калі праязджаеш праз нашыя вёскі і мястэчкі, цяжка ўявіць, што яны былі так страшэнна знішчаны нямецкімі акупантамі. Калі ідзем па сялянскай вуліцы, асветленай электрычнасцю, калі заходзім у клуба-кавярні і бачым тэлеперадачы, або калі чуем рокат трактараў і бачым прыгожа апранутых дзяўчат, якіх аніяк не адрозніш ад гарадскіх, душа радуецца. Пабагацелі




мы, паразумнелі. Матацыкл, радыёпрыёмнік, трактар, электрычнае святло, з кожнай вёскі дзесяткі навучэнцаў у сярэдніх і вышэйшых школах — усё гэта стала нечым зусім нармальным. Інакш зараз ніхто не прадстаўляе ходу нашага сённяшняга жыцця. Прывядзем некалькі прыкладаў.

У Гайнаўскім павеце на 146 вёсак электрыфікавана больш 130. Сельскагаспадарчыя гурткі валодаюць больш як 200 трактарамі з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын (як плугі, культыватары, бораны, прычэпы). Мала ўжо спатыкаецца сеянне збожжа ўручную, таму што выконваецца гэта работа амаль 500 сеўнікамі. Знікла беспаваротна малацьба цэпам. Каля 150 малацільных агрэгатаў аблегчыла жыццё гаспадарам. Жніво сярпом таксама ўжо амаль не спатыкаецца. Многія гаспадары набылі ўжо сабе жняяркі, а апрача гэтага больш 150 штук налічваецца іх у сельскагаспадарчых гуртках.

У Новым Беразове (Гайнаўскі павет) няма той хаты, з якой хто-небудзь не вучыцца або не закончыў сярэднюю або вышэйшую школу. Амаль няма такой хаты, каб хто-небудзь не адышоў у горад. Там больш 50 асоб ужо ёсць з сярэдняй адукацыяй і больш 20 асоб з вышэйшай адукацыяй. Яны зараз займаюць адказныя пасады ў нашым і іншых ваяводствах. У Новым Беразове сельскагаспадарчы гурток мае 8 трактараў з поўным камплектам сельскагаспадарчых машын.

У вёсцы пракладзены ходнікі, пабудаваны сучасныя крамы і будынак для мясцовай ГРН. У сялян налічваецца больш 20 сціральных машын, а ўжо радыёпрыёмнікаў, матацыклаў і веласіпедаў не палічыць. Кожны імкнецца купіць цяпер халадзільнік, пыласос, сокавыжымалку і іншыя прылады, якія аблягчаюць працу жанчыне. Пячэнне хлеба кожнай сям'ёй цяпер таксама ўжо памалу адыходзіць у мінулае. Кожны тыдзень па два разы давозіць сюды хлеб гайнаўскі ГС.

Нашыя вёскі маладзеюць. Напрыклад, у Сухавольцах за гады народнай улады пабудавана больш 40 новых дамоў і большасць з іх мураваныя. У многіх вёсках ліквідавана ўжо цераспалосіца. А колькі змеліяраваных сенажацяў і паш, а колькі вёска атрымоўвае мінеральных угнаенняў і колькі карысці мае з кантрактацыі! Усё гэта стала нармальным, штодзённым.

А як вёска наша выглядала 20 год назад, перад Ліпеньскім Маніфестам?

На Беласточчыне было электрыфікаваных толькі 18 вёсак. На вёсках Беласточчыны 86 000 чалавек залічвалася да групы «лішніх рук да працы». Панаваў голад на зямлю, цемра і забабоны. У 1937/38 навучальным годзе у Польшчы каля 1 мільёна дзяцей зусім не вучылася ў школе, а ў Беластоцкім ваяводстве налічвалася іх 31 тысяча.

Сёння наша вёска змеханізаваная і адукаваная, заможная і культурная.

І ў 25-ты год народнай улады на Беласточчыне сяляне нашых вёсак уступаюць з новым уздымам на працоўныя подзвігі, да якіх мабілізуюць іх тэзісы V З'езда ПАРП. (мс)

 



Члены дэкламатарска-эстраднага калектыву «Самасейкі».

# Вялікая культура для ўсіх

Перад летнімі канікуламі і перыядам водпускаў адбылася ў Беластоку нарада, аб якой пару слоў ведаць варта. Была гэта менавіта нарада над рэпертуарам двух беластоцкіх тэатраў — драматычнага і лялькавага, сімфанічнага аркестра і эстрады.

Іх новы рэпертуар будзем глядзець і слухаць у новым сезоне 1968/69 года, але ўжо зараз ён плануецца, дыскутуецца, зацвярджаецца.

Рэпертуар, профіль і планы драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку прадставіў дырэктар Браніслаў Орліч, лялькавага тэатра «Свершч» — дырэктар Іаанна Пякарская, сімфанічнага аркестра — дырэктар Ян Куляшэвіч, эстрады — дырэктар Рышард Варанецкі.

Аб самім рэпертуары будзем яшчэ пры іншай нагодзе пісаць, напрыклад, пры прэм'ерах. Тут хачу толькі сказаць, што відаць ў прадстаўленым рэпертуары амбітнае імкненне да высакавартасных пазіцый. Відаць амбітнае імкненне дайсці з тэатрам, музычным мастацтвам да вёскі, да ўсіх людзей.

Усе вышэй успомненыя цэнтры беластоцкай культуры многа робяць, каб бачылі, слухалі і прымалі іх усе. Таму многа выступленняў у вёсках, фабрыках, школах, на свежым паветры.

(вл)

# З УРАЧЫСТАСЦІ АДДЗЕЛА

**Як мы ўжо інфармавалі, у мінулым нумары «Нівы» 22 чэрвеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку адзначаў дзесятую гадавіну сваёй дзейнасці. Сёння змяшчаем здымкі з урачыстага вечара.**

**Фота М. Хмялеўскі**



Выступае харавы калектыў аддзела.



Самы ахвярны актыў гарадскога аддзела.




### УСПАМІНЫ

**Zofia Tołstojowa**

**Pamiętniki.**

Wybór i tłum. z ros. M. Leśniewska
Kraków, 1968 WL
Cena — zł 70,—

Гэта ўспаміны жонкі вялікага пісьменніка Льва Талстога. Софія Берц выйшла замуж за Талстога ў 18 год. Талстому было тады 34. Пражыла з ім 48 год. Памерла 9 год пасля яго, у 1919 годзе.

Была вельмі ўпартай памочніцай свайго мужа. Калі той меў цяжкасці з друкам аднаго свайго рамана, Софія дайшла да цара Аляксандра III і выпрасіла ў яго дазвол на друк.

### ПАЭЗІЯ

**Guillaume Apollinaire: Poezje wybrane.**
Tłum. A. Ważyk.
**Rainer Maria Rilke: Poezje wybrane.**
Tłum. M. Jastrun.
**Federico Garcia Lorca: Poezje wybrane.**
Tłum. J. Ficowski.
Wydała LSW. Cena tomików po zł 10.

З серыі «Бібліятэка паэтаў XX стагоддзя» прадстаўляем тры вышэй успомненыя пазіцыі. Аўтары — гэта вялікія людзі ў сучаснай паэзіі, якія па сутнасці і ўфармавалі паэзію новых часоў.

Усе нарадзіліся ў канцы мінулага стагоддзя. Рыльке — аўстрыйскі паэт, Апалінер — французскі, бацька яго быў палякам, Лорка — іспанец. На смерць усіх вайна мела свой жахлівы ўплыў: першы перажыў вялікае псіхічнае патрасенне, гледзячы на жудасць першай вайны, другі — салдат, памёр на два гады да канца вайны, трэці — замардаваны фашыстамі ў 1936 годзе.

**Gilgamesz.**

**Epos babiloński i asyryjski ze szczątków** zebrany i uzupełniony także pieśniami szumerskimi przez Roberta Stillera.
Warszawa, 1967. PIW.
Cena zł 30.

Паэма пра Гільгамеша — шумерскага героя, жыўшага 5 тысяч год назад. Запісана кліновым пісьмом на аккадскай мове, знойдзена была пры раскопках ў слаўнай бібліятэцы Ашшурбаніпала.

Твор аграмаднай сілы, разважае аб сэнсе жыцця і смерці, новы. а папраўдзе стары, адкрывае свет, свет, з якога нарадзіўся наш новы.

**Horacy**

**Wybór poezji.** Oprac. J. Krukowski. Tłum. z łac. A. Asnyk i in.
Wrocław, 1967, Oss. Cena zł 30.

Серыя «Бібліятэка Нарадовая» выдавецтва Асалінеум у Вроцлаве здабыла сабе прызнанне, як зрэшты кожная пазіцыя, якая гэтым выдавецтвам фірмуецца.

Вышэй названы томік вершаў прадстаўляе нам лірыку старажытнарымскага паэта, якога калісь і цяпер тлумачаць і выдаюць ўсё нанава.

**Petroniusz:**

**Satyryki.** Tłum. z łac. i oprac. M. Brożek.
Wrocław, 1968, Oss. Cena zł 22.

І яшчэ адна рэч з бессмяротнай старажытнасці. Аўтар — Петроній, вядомы арыстакрат з часоў Нерона. Аб ім многа і цікава расказвае Генрык Сянкевіч у «Кво вадіс». Большы фрагмент «Сатырыкону» Петронія называецца «Гасціна Трымальхіёна» — багатага вызваленца, які ва ўсім перабірае меру і добры смак.

### МАЛАДЗЁЖНЫЯ

**Lucy Maud Montgomery:**

**Ania z Zielonego Wzgórza.**
**Ania z Avonlea.**
Wyd. 3. Warszawa 1967, NK, Cena zł 50.

Да гэтай кніжкі заахвочваць не трэба. Але на прыкладзе рыжай інтэлігентнай Ані можна павучыцца жыццёвай рэфлексіі нават старому.

**Juliusz Werne**

**Tajemnicza wyspa.** T. 1, 2,
Wyd. 8. Warszawa 1968, NK.
Cena zł. 35

Жулем Вернам зачытвалася і я ў маладосці, ды і цяпер бы ахвотна паплыла з ім «Наутыліем» з таямнічым капітанам «Немо» ў падводнае падарожжа вакол свету.

(вл)

**У пошуках шчасця**

# МЕСЦА Ў ШЧЫЛІНАХ ГІСТОРЫІ

Хіба нішто на свеце не выклікае столькі захаплення, перамешанага з трывожнай пашанай, здзіўленнем і ашаламленнем, як вялікія помнікі чалавечай працы: мануметальныя будынiны, піраміды, святыні, шэдэўры сусветнага мастацтва. Вядома, якое вялікае значэнне маюць яны для народа, для адзінкі, для гісторыі. Гісторыя — абстрактная, няўлоўная для сучасніка, дзякуючы помнікам культуры, дзякуючы трывалай прысутнасці ў іх гістарычнай традыцыі, стаецца канкрэтнай наяўнасцю, рэальнай і зматэрыялізаванай. Веліч продкаў і іх вялікіх тварэнняў у форме помнікаў культуры стаецца нашай уласнасцю, кранаючы іх, аглядаючы, чытаючы, успрымаючы, навязваем непасрэдную злучнасць з усёй вялікай традыцыяй народа. Веліч традыцыі і яе стваральнікаў пераносіцца на нас. Стаемся такім чынам самі вялікімі, годнымі, бяспечнымі, знаходзім сваё трывалае месца ў гісторыі. Месца ў ходзе вялікіх падзей, вялікіх тварэнняў, вялікіх спраў.

Мае продкі са Старой Вёскі не пабудавалі пірамідаў, не стварылі карцін накшталт «Бітвы пад Грунвальдам,» не склалі «Ільяды» і «Адысеі», не пабудавалі манументальных святынь, калі не лічыць убогай драўлянай царквы на ўскраіне вёскі. А ўсё ж-такі мае продкі са Старой Вёскі не былі закінутымі ў акіян гісторыі — без маякоў ды арыенціраў. Наадварот, уся Старая Вёска была адзінай вялікай кнігай, у якой запісана не толькі яе ўласная гісторыя, але і гісторыя ўсяго чалавецтва. Не верыш? Пойдзем тады на найвышэйшы ў Старой Вёсцы ўзгорак, на Трахімаву гару, ды паглядзім на наваколле ў летні дзень, калі бязлітасна смажыць сонца, пахне дазраваючым жытнім коласам, ды бзычаць у канюшыне пчолы.

Праўда, пачатак чалавецтва не займае многа месца ў гэтай своеасаблівай кнізе. Ёсць тут усяго невялікая горка, якую называюць Адамавым Каленам. Вядома, разыходзіцца пра Адама — першага чалавека, не вядома толькі, чаму ён менавіта тут выставіў калена.

Затое пазнейшая гісторыя свету ўдакументавана ў тутэйшым краявідзе. Вось хаця бы адзінокая каплічка ў полі над крыніцаю, з якой ручай вады выплывае — пасярод лугоў, паросшых лазою. Тут, — расказваюць старыя людзі, — Божая маці, калі яшчэ хадзіла па свеце, змучыўшыся, села адпачыць над ручаём, ды вады напіцца. З той пары вада ў крыніцы стала цудатворнай, а людзі пабудавалі ў гэтым месцы каплічку. Людзі з пашанаю адносяцца да крыніцы, да каплічкі і да цудоўнай аздараўляючай вады — раз у год адбываюць тут на ўлонні лугоў урачыстыя багаслужэнні.

Або далей, там, дзе кучма буйных соснаў высіцца пад неба. Гэта Святая гара. Калісь, даўным даўно, — расказваюць, — стаяла тут царква высокая. У час нашэсця няверных бісурманаў царква з людзьмі затапілася пад зямлю. Лёгка аб тым пераканацца. Хопіць прысці сюды ноччу на Яна ды прылажыць вуха да зямлі. Пачуеш царкоўныя званы ды набожныя спевы.

А там налева, дзе роўнае плоскае поле, людзі называюць Курганкамі. За старой памяці быў тут адзін магільнік, потым гаспадары яго зааралі. Калісьці ў няпамятныя часы адбылася тут вялікая бітва са шведамі. Людзі пераконаны, што была гэта найвялікшая бітва ва ўсёй вайне. Далей відаць Грабавая гара, дзе Напалеон, уцякаючы з-пад Масквы, закапаў залатую брычку і бочку золата. Золата страшыць людзей па начах, паказваючыся ім у выглядзе агню. Хопіць накрыць агонь шапкаю — і золата будзе ў кішэні адважнага. Адважны аднак, нажаль, не знайшоўся ў Старой Вёсцы. А побач распасціраецца паросшае лазою балота, званае Воўчым балотам. Тут страшылі людзей ваўкалакі — вясельнікі, замененыя калісьці злым чараўніком у ваўкоў.

Ведаю, што скажаш, мой інтэлігентны, абазнаны ў свеце чытач. Гэта ўсё толькі прымітыўныя народныя міфы, у якія зараз нават на вёсцы толкам ніхто не верыць. Так, бо і як тут верыць. Ваўкоў — ваўкалакаў павыстрэльвалі паляўнічыя, балота, дзе хаваліся чэрці, змеліяравана, на Святой гары павырубваны найстарэйшыя святыя дрэвы, Грабавую гару зруйнавала зусім дарожнае прадпрыемства, здабываючы з яе жвір і не знаходзячы ні залатой брычкі ні бочкі з золатам, а цудатворную ваду замянілі лекары ды карэткі хуткай дапамогі.

Астаецца аднак істотная праблема. Ці людзі Старой Вёскі, перастаўшы чытаць праўды жыцця з кнігі, упісанай у яе краявід, пачалі чытаць іх з сапраўдных кніжак мудрасці?. Ці страціўшы эмацыянальны, інтымны кантакт з вясковымі пагоркамі ды хмызнякамі, навязалі такі кантакт з тварэннямі агульнанацыянальнай культуры? Ці страціўшы веру ў гісторыю, запісаную ў курганах і народных легендах, засвоілі веру ў гісторыю, пісаную гісторыкамі-прафесарамі і вынікаўшыя з яе вывады? Словам, праблема: ці выкараніўшыся з натуральнай глебы народных міфаў і легендаў, удалося нам дастаткова закараніцца ў агульнанароднай гісторыі, у шчылінах вялікіх праблем і вялікіх падзей, знайсці там сваё месца і сваё становішча?

**Рыгор Паўлюк**



 

**М. ЯНКОЎСКІ**

БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ „У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Ісці ў свой край дзеяння без нашых партызанскіх газет і лістовак, гэта азначала ісці напалавіну ўзброенымі. Яшчэ на маршы ў Ружанскую, а затым у Ліпічанскую пушчу група журналістаў «Беластоцкай праўды» (падпольнай газеты Беластоцкага абкома партыі, рэдактар Сцяпан Майхровіч) і «Маладога партызана» (падпольнай газеты Беластоцкага абкома камсамола, рэдактар Якаў Качан) рыхтавала тэксты лістовак і матэрыялы для выпуску гэтых газет. У лістападзе месяцы 1943 года мы ўжо атрымлівалі ад сваіх рэдакцый і друкарань з Ліпічанскай пушчы зводкі Савінфармбюро, лістоўкі, падпольныя абласныя і раённыя газеты. Усю гэтую літаратуру праз разведчыкаў брыгады і сувязных мы пасылалі ў свае раёны дзеяння і распаўсюджвалі іх па ўсіх населеных пунктах і ў варожыя гарнізоны. А ўжо перад выхадам у другі рэйд на захад мы мелі вялікі запас літаратуры: 500 экземпляраў «Беластоцкай праўды» і амаль столькі ж «Маладога партызана», каля тысячы экземпляраў газет нашых раёнаў дзеяння і шмат лістовак.

З Ліпічанскай пушчы да нас прыехаў малады, энергічны партызанскі журналіст Іван Казлоў. Ён прывёз нам свежых лістовак з апошнімі паведамленнямі з фронту і прасіў прыслаць для партызанскага друку матэрыялы аб жыцці людзей Беласточчыны і іх барацьбе супраць акупантаў. Латаратура, якую мы паняслі ў Беласточчыну, адыграла вялікую ролю ў згуртаванні працоўных гэтага краю вакол партыйных і камсамольскіх падпольных арганізацый раёнаў. Мы атрымвалі яе рэгулярна да злучэння з Савецкай Арміяй.

10 сакавіка 1944 года адбылося чарговае пашыранае пасяджэнне бюро Лапскага падпольнага міжрайкома партыі, на якім быў заслухан мой даклад аб новым паходзе ў раёны дзеяння. Бюро дваручыла мне ўзначаліць групу партызан і прыдзеленых да яе таварышаў з груп спецыяльнага назначэння. 12 сакавіка наша група вышла ў паход з Гута-Міхалінскага лесу на захад. Цяпер мы ішлі ўжо не на поўдзень Белавежскай пушчы, а праз яе Свіслачскую дачу, потым праз пушчу паўночнае Белавежы, да яе заходняй ускраіны непадалёку ад вёсак Дубіны і Навасады. Там размяшчалася група Аляксандра Юрчука. Да яе лагера і вёў нас Васіль Пятровіч Кірычэнка, якога партызаны называлі «ваўком» Белавежскай пушчы.

14 сакавіка 1944 года мы прыбылі ў лагер партызанскай групы Аляксандра Юрчука. Ідучы сюды Васіль Карніенка гаварыў мне, што група жыве ў зямлянцы. Але калі мы прыйшлі на месца, то я не ўбачыў там нічога падобнага ні на зямлянку, ні на лагер. Мы прывыклі бачыць у лагерах партызанскіх зон зямлянкі, размешчаныя па прынцыпу невялікіх гарадкоў, з «вуліцамі» і «плошчамі», асобныя кухні, шпіталі, нават клубы і лазні.

Аляксандр Юрчук са сваімі партызанамі пабудаваў недалёка ад ускраіны пушчы невялікую зямлянку на дзесяць байцоў — гэта месца яны называлі сваім лагерам. Зямлянкі той вы ніколі не знайшлі б, таму што ў тым месцы, дзе яна была пабудавана, узвышаўся над зямлёй звычайны лясны бугарок, якіх вельмі многа ў кожным лесе. Бугарок пакрыты зараснікам маладзенькага ельніку. На паўднёвым схіле яго стары пень даўно спіланай яліны, а навокал высокія сосны, веліканы-дубы, а зрэдку між імі цягнуліся ўвысь стройныя пірáміды ялін. Камлі дрэў густа ахутвалі кусты арэшніку. Мінут на дваццаць Кірычэнка пакінуў нас і вярнуўся ўжо не адзін, а з высокім, хударлявым чалавекам. Гэта і быў Аляксандр Юрчук. Партызаны яго групы пайшлі ў пушчу, а ён і Фёдар Трэдэль рыхтавалі міну-самаробку пад раскідзістым дубам, дзе і знайшоў іх Васіль Пятровіч. Грэдэль застаўся там, бо ён адначасова быў і вартавы, а Юрчук прыйшоў да нас.

Знаёмства было кароткім, як звычайна знаёмяцца партызаны, але Юрчук быў усхваляваны. Ён не чакаў днём такой вялікай групы, а нас было 60 чалавек і, як гаспадар, не ведаў дзе яе размясціць. Партызаны пачалі размяшчацца самі. Юрчуку відаць не спадабалася гэта. Ён прапанаваў нам больш зручнае месца метраў за трыста ад сваёй зямлянкі.

Кірычэнка з групай пачаў абсталёўваць лагер, а мяне і партызана-дэсантніка Валянціна Бандарэнку Юрчук павёў знаёміць са сваёй зямлянкай.

Ён падыйшоў да пня і нахіліў яго да сябе. Разам з пнём паднялася квадратная глыба імху і лісцяў, яшчэ пакрытых снегам і перад намі адкрылася яма ў падзямелле. Гэта быў ход у зямлянку. Улезлі ў яе па шырокай дашчаной лесвіцы. Аляксандр апусціўся апошнім і глыба зноў закрыла ўваход. Крыху пахла вільгаццю звычайнага сялянскага склепа, але цяпло жылога памяшкання прымушала нас адчуваць, што мы трапілі не ў склеп, а ў звычайны невялікі пакой з затхлым паветрам.

Гаспадар зямлянкі запаліў васковую свечку і мы сапраўды ўбачылі тое, што адчувалі ў цемені. Падлога, сцены і столь зямлянкі выкладзены дошкамі. Паабапал вузкага калідора — нары для адпачынку, а ля процілеглай ад лесвіцы сцяны невялікі столік, якісь паперы на ім. чарніліца, ручка. Побач з лесвіцай лавачка, на ёй вядро вады і кубак. На абедзвюх нарах салома, засланая саматканымі коўдрамі, а замест падушак звычайныя мяшкі, напханыя сенам.

Мы пацікавіліся, як жа можна спаць у такой нары без вентыляцыі. Юрчук падышоў да століка і высунуў са сцяны дашчаную засаўку. Мы ўбачылі круглую дзірачку сантыметраў 15 у дыяметры. Гэта звычайная жалезная труба закапаная ў зямлю і выведзеная з зямлянкі наверх у густы ельнік, а там замаскаваная тонкім пластом моху. Зямлянка пачала напаўняцца свежым паветрам.

І яшчэ не маглі мы зразумець адной хітрасці дубінскіх канспіратараў, як ім удаецца замятаць за сабой сляды на снезе. Але і гэта зроблена вельмі проста. Вакол уваходу ў зямлянку густы ельнік крокаў на дзесяць ад яго і тут слядоў ніяк не прыкмеціш. А далей стаяць у блытаным парадку пні, укапаныя восенню 1943 года. Па гэтых пнях заходзяць і выходзяць яе жыхары да спецыяльна пракладзенай сцежкі ў два процілеглыя ад зямлянкі бакі.

У нашых краях такая канспірацыя непатрэбна была нават у першую зіму вайны, бо калгаснікі, калі і ведалі, што ў іх лесе ёсць партызаны, то кожны трымаў гэта ў сакрэце. Тут жа шпікі і правакатары высочвалі партызан і даносілі аб іх гестапаўцам. Такія абставіны прымушалі нашых беластоцкіх сяброў па зброі будаваць канспірацыйныя жылішчы і старанна замятаць за сабой сляды. Я зразумеў, чаму Юрчук так баяўся нашага суседства побач з зямлянкай. Ён, мабыць, лічыў нас часовымі гасцьмі. Але мы і самі адмовіліся б жыць у такіх падзямеллях, бо ў гэтым не было патрэбы.

Пасля знаёмства з партызанамі невялікай групы Аляксандра Юрчука мы сумесна вырашылі папоўніць яе новымі людзьмі з нашай групы і стварыць трэці партызанскі атрад брыгады «У імя Радзімы». Па жаданню самых партызан атраду было прысвоена імя Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага. Камандзірам атрада назначылі Юрчука, камісарам Паўла Апанасевіча, начальнікам штаба Георгія Хадзеева і начальнікам разведкі Валянціна Бандарэнку.

Група, якая прыбыла са мной, перайшла яшчэ далей у пушчу. У яе лагер перайшлі ўсе дзяржынцы. Зямлянка апусцела, але яна была неабходна для захавання прадуктаў і гаспадарчых рэчаў.

З намі прышло некалькі чалавек з групы спецыяльнага назначэння, якую ўзначальваў капітан Васюк. Сам Васюк застаўся пры штабе злучэння ў Ліпічанскай пушчы, а ўсе справы па выкананню заданняў у раёнах дзеяння ён даручыў Пятру Аляксеевічу Воласу. Пётр Аляксеевіч пайшоў у Бельскі раён да нашых партызан Уладзіміра і Васіля Шаралаў у вёску Відава. Васіль Пятровіч застаўся ў Белавежскай пушчы, а я з Юрчуком, Бандарэнкам і пяццю аўтаматчыкамі вышлі для знаёмства з раёнам дзеяння брыгады.

Вёскі Навасады і Дубіны нам спадабаліся. Мы сустрэліся там з надзейнымі людзьмі Юрчука, але яны прасілі нас быць асцярожнымі, не хадзіць па вуліцы нават ноччу, а ў дамы да сваіх людзей заходзіць праз агароды. Гэтыя вёскі размешчаны паблізу Гайнаўкі і нямецкія шпікі часта шныраюць па вясковых вуліцах.

Дубіны — старажытная вёска. Першыя пасяленцы пабудаваліся тут, прыкладна, у 1639—1670 гадах для аховы Белавежскай пушчы. З таго часу і пачынаецца гісторыя гэтай вёскі. За прайшоўшыя стагоддзі яе жыхары перажылі шмат паноў і падпанкаў, але такіх катаў і цемрашалаў, як нямецкія фашысты, яны яшчэ не бачылі. Мы былі задаволены, што гэтая вёска стала радзімай нашага атрада імя Дзяржынскага і першай базавай вёскай партызанскай брыгады «У імя Радзімы».

Пасля разведкі подступаў да чыгуначнага палатна ад Гайнаўкі да вёскі Пераход і знаёмства з размяшчэннем на ёй умацаваных кропак ворага мы перайшлі за чыгунку. Пачаўся рэйд па Гайнаўскім, Бельскім і Бранскім раёнах.

На маршруце паходу нельга было абмінуць нямецкага дзяржаўнага маёнтка Дзендзілова. Тут трэба адзначыць, што на Беласточчыне, у гэтых раёнах, амаль усе маёнткі ахоўваліся ад партызан самімі рабочымі. Немецгаспадар ці аканом трымаў у сябе зброю і пры паяўленні партызан рабочыя павінны былі бегчы да яго, узбройвацца і даваць ім адпор. Калі мы

# Беластоцкія матывы

(Працяг са стар. 1)

тупнага года вучыцца ў Вечаровай інжынерскай школе. Закончвае ў 1962 годзе, інжынер, але перад тым праца і навука, калаўротак дня і зацятасць непраспаных ночаў. Вытрымаў адзін з пяцёх-дзесяцёх. Цуд? Не цуд — упартасць. Беласток, адросшы з папялішчаў.

Генік Барода, друг мой, таварыш у шчасці і няшчасці, дазволіць сабе на цэламесячны водпуск, першы ад дванаццаці год цэламесячны.

**Матыў трэці. Мільёны.**

З'яўляецца кіраўніком групы будоўляў (6—7), роты рабочых і дзевяцёх інжынерна-тэхнічных работнікаў (афіцэраў прадукцыі), персанал плюс дваццаць чатыры мільёны злотых у год, па два мільёны штомесяц, кошт рэалізаваных інвестыцый, восьмая частка ўсіх, што ў руках «Прамыслоўкі», в о с ь м а я частка гігантычнай «Прамыслоўкі» у руках інжынера Е. Бароды, семдзесят тысяч кубічных метраў, якія будуюцца штогод. Семдзесят тысяч. Найлепшыя з найлепшых, ён найлепшы.

Паэзія мільёнаў.

А вось проза...

Аб'ект(ы) «Бажантарня», 210 тысяч кубічных метраў: агародніцка-спажывецкая фабрыка, Цэнтрасталь, склады, магазіны, насенная цэнтраля, гандлёвая база (галоўны будынак займае 8 тыс. квадратных метраў), сыраварня (за 50 мільёнаў). І іншыя, разам за чвэрць мільярда злотых. «Хлодня» (Усходняя шаша), базы, магазіны, школа, чыгуначная ветка, бровар (разбудова), мясакамбінат (будаванне і разбудаванне).



Рух жалеза, тэхніка, готык планаў, будоўлі жыцця, сэнс, радасць працы, патрэбнасць, — ступенькі, чартоўска нялёгкія ступенькі, ад Быту да Свядомасці Быту, цікавасць да свету і яго будаванне.

**На першай старонцы: школа медсясцёр пры вуліцы Аргадовай, 20 мільёнаў зл., 22 тыс. кубічных м, першая з найноўшым абсталяваннем, ідэал 1957 г. інж. Бароды).**

**Сакрат Яновіч**



**ВЯЛІКАЕ З ПЕНКАЙ**

Калі мацней прыгрэе сонца, дык адразу ўзрастае запатрабаванне на халодныя напіткі. Тады найбольш аматараў на піва. Дастаўшчыкам піва для Беластоцкага ваяводства ў асноўным з'яўляецца Піваварскае прадпрыемства ў Дайлідах пад Беластокам. **У мінулым годзе выпрадукавала яно звыш 17 мільёнаў літраў піва.** Дайлідскаму бровару дапамагае піваварская спулдзельня ў Сувалках, якая выпускае ў год каля 8,5 мільёна літраў піва. **У гэтым годзе дайлідская півоварня намерана выпусціць каля 22 мільёнаў літраў «яснага з пенкай».** Цяжка проста ўявіць сабе такую колькасць піва. Калі б прышлося бутэлька за бутэлькай паставіць у адзін шэраг гэтую колькасць піва, можна было б абставіць з абодвух бакоў дарогу з Беластока да Сахаліна ды яшчэ асталося б на дарогу з Беластока ў Берлін. (вр)

фота аўтара

# 10 ТЫС. КІЛАМЕТРАЎ ПРАЗ МІЖЗЕМНАЕ МОРА

Два разы: у доме культуры «Ляснік» у Гайнаўцы і ў Белавежы др. Сабіна Тычка з Бальнеакліматычнага інстытута з Познані расказвала пра сваё падарожжа па свеце. Праехала яна 10 тыс. кіламетраў праз Грэцыю, Італію, Туніс, Алжыр, Заходнюю Еўропу. Слухачу свайму др. Тычка на каляровых дыяфільмах (празрочах) паказала сваё падарожжа.

Др С. Тычка выступіла таксама з навуковым дакладам аб сваім інстытуце ў Белавежскім інстытуце млекакормячых.

Як паведамляе нас Таварыства прыяцеляў Белавежы др. С. Тычка была ў захапленні ад Белавежы. (вл)




«Смог», англійская назва, у перакладзе на беларускую мову прыблізна «дыматуман» — з'яўляецца густой вільгацію, насычанай пылам, попелам, саджаю і г.д. «Смог» добра ведаюць жыхары Лондана.

Калі надыходзіць «смог» — сярод дня робіцца вечар, крадзецца ён у шчыліны дамоў, тады выходзіць на вуліцу небяспечна, нават немагчыма. Ніхто не патрапіць арыентавацца, куды трэба ісці, кожны блукае на дарозе да свайго дома, сутыкаецца тварам у твар з іншымі. Усюды жоўтая густая вільгаць, машыны спыняюцца і начуюць проста на вуліцы, у горадзе несамавітая цішыня, быццам у магільні, налятае дзікі страх, нельга нармальна дыхаць, паветра пахне цэментам, пяском, газамі. «Дыматуман» не прапускае найменшых гукаў.

Страшэнны «смог» перажыў Лондан у днях 5—9 снежня 1952 года. Газеты паведамілі, што памерла за гэтыя дні чатыры тысячы чалавек, а звыш чатырох тысяч памерла пасля, сотні тысяч людзей цяжка хварэла. «Смог» быў вядомы Лондану ўжо здаўна, у 1273 годзе абвешчана распараджэнне аб забароне карыстання вугалем ад якога дым прызнаны шкодным для здароўя. Праз трыццаць год пасля, у 1306 годзе, спецыяльнае распараджэнне забараніла рамеснікам карыстацца бурым вугалем, ад якога дым шкодзіць здароўю караля (так гаварылася ў распараджэнні).

Найноўшыя кантролі гарадской атмасферы ў Лондане паказалі, што палова дымаў выходзіць з традыцыйных каміноў, пры якіх так любяць сядзець вечарамі англічане. Рамантычныя каміны — прычынаю смерці многіх! Рэшта, другая палова дымаў, з'яўляецца «заслугай» прамысловасці.

Англійскі парламент прыняў пастанову «Палажэнне аб чыстым паветры». Апіраючыся на гэтым законе апрацаваны планы ачышчэння атмасферы Лондана і іншых гарадоў Вялікабрытаніі. У кожным горадзе штогод устанаўліваюцца новыя зоны чыстага паветра, у якіх ліквідаваны ўсе «дыматворныя» элементы. Адбываецца гэта так: у межах вызначанай зоны горада праводзіцца пастаянны кантроль чысціні паветра і ўсіх існуючых у дамах печаў, а таксама прамысловых аб'ектаў. Кантралёры маюць медыцынскую адукацыю, даскаанала сарыентаваны ў праблемах апалу, праводзяць нагляд над камінамі і аналізуюць якасць дыму з тых каміноў. Маюць такім чынам магчымасць акрэсліць сродкі, якія неабходна прымяніць, каб палепшыць чысціню паветра. У першую чаргу замест вугалю прапануецца стасаваць электрычнасць або газ. Людзі, якія не слухаюць іх парад, нясуць вялікія кары, грашовыя штрафы, а ўпартым прамыслоўцам маюць яны права замкнуць фабрыку да часу, пакуль уласнік не пабудуе належных інсталяцый.

Дзейнасць гэтых «кантралёраў каміноў» дае дасканалыя вынікі. Лондан і іншыя гарады Англіі, Валіі і Шатландыі, так сказаць, ачышчаюцца, можна ў іх дыхаць і жыць без асаблівай рызыкі для здароўя.

Падобная праблема існуе і ў нашай краіне, у нашых гарадах, асабліва на Шлёнску. У нас таксама прынята **пастанову аб чыстым паветры** — і моцна прыдаліся б такія «кантралёры каміноў». Некантраляваная пастанова з'яўляецца мёртвай, мала хто нават і чуў пра яе. Разам з развіццём цывілізацыі, тэхнікі, чыстае паветра робіцца праблемай і то немалаважнай — праблемай жыцця або смерці. (а-ся




«Камарыная» праблема — не новая і не простая. Людзі займаюцца ёю амаль гэтак жа беспаспяхова, як і даўно. А між тым, камары, маскіты і мухі не толькі псуюць настрой дачнікам і перашкаджаюць працаваць. Яны захоўваюць і разносяць шмат небяспечных хвароб — малярыю, жоўтую ліхаманку, сібірскую язву, нават поліяміэліт. Таму без перабольшання можна сказаць, што машкара кожны год губіць сотні тысяч чалавек, асабліва ў гарачых краінах. Не дзіва, што барацьбой з крывасмокамі займаецца Сусветная арганізацыя аховы здароўя. Пад яе кіраўніцтвам распрацаваны два арыгінальныя спосабы барацьбы з камарамі і да іх падобнымі.

Для выпрабавання спосабаў выбралі невялічкія ізаляваныя адзін ад аднаго і ад астатняга свету астраўкі ў Ціхім акіяне. На іх цяпер сапраўднае камарынае царства. На адным востраве выпрабоўваюць звычайныя ядахімікаты, але ў незвычайным выглядзе. З цэменту, змяшанага з ядам, выраблі брыкеты і раскідалі па востраве. Цэмент павольна разбураецца і пакрысе, але няўхільна выдзяляе яд.

Другі спосаб — грыбны. Вядома, грыбы гэтыя — не баравікі, нават не мухаморы. Гэта мікраскапічныя грыбы — цэламаміцэты, якія паразітуюць на насякомых. Першыя калоніі грыбоў узялі ад лічынак камароў і рассеялі на значнай тэрыторыі вострава. Ніякага іншага ўмяшання чалавека не спатрэбілася. Цяпер ваяўнічыя грыбы самі размнажаюцца, распаўсюджваюцца па востраве і знішчаюць лічынак камароў.

Наколькі новыя спосабы акажуцца эфектыўнымі, пакажа час.

## „ЦЁПЛЫЯ" БАКТЭРЫІ

У Ціхім акіяне акіянографы выявілі своеасаблівыя «басейны» з цёплай вадой. Гэта каралавыя астравы ў форме кольцаў. Вада ўнутры некаторых з іх у паўтара раза цяплей, чым у навакольным акіяне. Як відаць, вада награваецца ў выніку жыццядзейнасці вялікай колькасці асобых бактэрый, якія жывуць унутры кольцаў-астравоў. Бактэрыі выдзяляюць серавадарод, таму, акрамя іх, у цёплых «басейнах» ніхто не жыве.

## КАПУСТА НА КАТКУ

Незвычайны спосаб захоўвання капусты і бульбы, радыскі і буракоў распрацаван у Пермскім сельскагаспадарчым інстытуце. Дзякуючы яму агародніна захоўваецца ўсю зіму аж да самай вясны лепш, чым у звычайным сховішчы.

Зімой намарожваюць лёдавую пляцоўку і на лета засыпаюць яе пілавіннем. Восенню на гэту падсцілку ў скрынках ставяць свежасабраную агародніну, закрываюць саламянымі матамі, а зверху зноў засыпаюць пілавіннем. Такое сховішча намнога больш таннае за звычайнае, а ўзятая з яго вясной агародніна нават смачнейшая, чым скажам, са склепа.

## САМЫ ВЯЛІКІ Ў СВЕЦЕ ГАДЗІННІК

Гарадскія ўлады аргенцінскага горада Тандыль, размешчанага на поўдні правінцыі Буэнас-Айрэс, адобрылі праект стварэння самага вялікага ў свеце гадзінніка. Ён будзе ўстаноўлен у гарадскім парку Індэпендэнсія. Цыферблат з суцэльнай каменнай пліты будзе мець дыяметр 8 метраў. Рымскія лічбы цыферблата — гэта драўляныя скульптуры алегарычных персанажаў: індзейца, салдата, гауч і іншых. Распрацаваў праект гадзінніка і цяпер будуе яго скульптар Асвальда Нестэр Лопес.

**Б. Шчарбакоў**

## ПЧОЛЫ АТАКУЮЦЬ

Некалькі вялікіх пчаліных рояў абрушылася на японскае сяло Гатанда, размешчанае на поўдзень ад Токіо. Нягледзячы на ўдушлівую спякоту, жыхарам давялося наглуха зачыніць вокны і дзверы сваіх дамоў і адседжвацца, пакуль не падаспела выклікаяная па тэлефоне дапамога. Спецыяльныя брыгады з цяжкасцю вызвалілі сяло ад гэтай асады.



**Марская хата. Архітэктар з Каліфорніі Давід Брукс пабудаваў камфартабельны плаваючы домік.**




Людзі ў наручніках прыведзены на пляцоўку перад лагунай. Глюк жэстам паказвае на каменны выступ непадалёк ад трапа:

— Сядайце!

Палонныя стаяць. Відаць, не разумеюць па-нямецку.

Канваір хмурыцца і паўтарае загад, падмацоўваючы яго рухам аўтамата.

Людзі сядаюць на камень.

З тунеля выходзіць Абст.

— Увага, устаць! — крычыць Глюк.

Палонныя быццам не чулі. Малады афіцэр закідвае нагу на нагу.

— Устаць! — паўтарае канваір.

Абст рухам рукі спыняе Глюка, які пагражаючы ўскінуў аўтамат.

— Устаньце, лейтэнант, — гаворыць ён, і голас яго гучыць амаль пяшчотна. — Вы павінны ўстаць!

Лейтэнант непарушны.

Абст усміхаецца.

— Добра, — гаворыць ён, бярэ ад Глюка аўтамат і веерам дае чаргу над галовамі палонных.

Чацвёра палонных стаяць навыцяжку.

А лейтэнант сядзіць.

Абст падсядае да яго.

Ён дрэнна ведае мову, на якой намагаецца цяпер гаварыць.

Лейтэнант абыякавы. Але губы яго скаліся ва ўсмешку.

— Вы скажаеце маю мову, — гаворыць ён па-нямецку. — Працягвайце на сваёй.

— Цудоўна. — Абст аблізвае губу. — Цудоўна, лейтэнант. І так, назавіце сваё імя.

— Яно вам вядома.

— А ўсё ж?

— Лейтэнант Джорджа Пела.

— Ну вось, зусім іншая справа. — Абст задаволены. — Цяпер я пачуў гэта ўласнымі вушыма. Хто мог падумаць, што лёс пашле нам такога госця!

— Навошта я вам спатрэбіўся? — пытае італьянец. Тон немца прымусіў яго насцярожыцца.

— О, вы тут добра папрацуеце.

— Я не буду працаваць на немцаў.

— Будзеце, лейтэнант. Але я хачу, каб гэта было добраахвотна. Дайце, я вызвалю вас ад бранзалету.

— Спярша зніміце наручнікі з маіх таварышоў. І накарміце іх...

— Як, вас не кармілі?

— Уявіце, не!

Абст абураны. Вальтэр і Глюк глядзяць на яго з цікавасцю.

— Апрача гэтага, я павінен спытаць... — Лейтэнант абводзіць вачыма купал грота. — Што гэта за катакомбы?

— Хутка даведаецеся. Але спярша некалькі пытанняў. Вы былі на рускім фронце?

— Так.

— Дзе менавіта?

— Пад Львовам. Там усё і здарылася.

— Што менавіта? Але спярша я хачу ведаць, як вы там апынуліся. Чаму трапілі ў пяхоту? Вы ж раней служылі на флоце?

— Мы адмовіліся тапіць караблі праціўнікаў дучэ. Нас пасадзілі ў турму, але потым паслалі на рускі фронт да «любімых і верных германскіх саюзнікаў», загладжваць віну.

— Зразумела, — гаворыць Абст. — А адкуль у вас такая нянавісць да фашыстаў?

— О, вы і гэта прыкмецілі? — У Пелы крывяцца губы ў горкай усмешцы. — Зараз вы зразумееце... Уявіце сабе вуліцы Львова. Па іх рухаюцца германскія ваенныя грузавікі. Яны вязуць італьянцаў: абяззброеныя салдаты і афіцэры сядзяць на дне кузаваў, залажыўшы рукі за галаву. Іх канваіруюць нямецкія аўтаматчыкі. Яшчэ тыдзень назад тыя і гэтыя змагаліся пляччо ў плячо. Цяпер гэта ворагі. Грузавікі ідуць за горад. Даставілі ў лес і расстралялі ў вялізарных ровах. Фашысты забівалі італьянцаў. Расстрэльвалі з аўтаматаў, закідвалі гранатамі, дабівалі выстраламі з пісталетаў. Вы можаце гэта зразумець?

— Гэта сумнае здарэнне, — заўважае Абст. — Аднак вінаваты не немцы.

— Хто ж вінаваты ў гэтай бойні?

— Некаторыя італьянскія часці вырашылі самавольна спыніць ваенныя дзеянні. А законы вайны суровыя. Той, хто кідае саюзніка... Словам, хопіць! Вы занадта разгаварыліся. Знайце ж: тое, што вы і вашы людзі ўцалелі ў львоўскай крывавай бойні, гэта мая работа! Удзячнасці не чакаю — я тройчы атрымаю ад вас. Вы патрэбны мне, Пела. Нас зацікавілі вашы спускі на вялікія глыбіні з выкарыстаннем звычайных дыхальных прылад. Як вы гэта робіце? Я выратаваў вам жыццё. І я хачу, каб мы сталі сябрамі.

— Для нас вайна закончана.

— Шкада, што вы так вырашылі. Дарэчы, вы дарма гаворыце за ўсіх. Дык і вашы таварышы — вопытныя вадалазы?

Палонны маўчыць.

Абст кранаецца рукой яго калена.

— Паслухайце, — мякка гаворыць ён, — я даўно адчуваю сімпатыю да выдатнага спартсмена Джорджа Пелы. Ідучы за гэтым пачуццём, я выратаваў яму жыццё. Паверце, я магу прымусіць вас. Але куды лепш, калі мы будзем дзейнічаць рука ў руку. — Ён устае, аглядвае італьянцаў. — Кожнаму з вас я прапаную...

— Спярша накарміце маіх людзей, — гаворыць Пела. — Дайце ім есці, вы, гуманіст!

# ТРЫБУНА чытачоў

### МАРАК



Анатоль Баканач, ураджэнец Новага Ляўкова (Гайнаўскі павет) мае зараз 20 год. Пасля заканчэння Засаднічай школы механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове пайшоў служыць у армію мараком.

Нядаўна за паспяховае выкананне баявых задач атрымаў некалькідзённы водпуск і прыехаў дадому.

Асабліва цёпла сустрэлі яго даўнія сябры. Спакойнага мора табе, наш зямляк.

**Янка Цялушэцкі**
**Фота аўтара**

### ЭКСКУРСІЯ

Вельмі цікавую экскурсію для вучняў пачатковай школы ў Патоцы арганізавала апякунчая адзінка ваяводскай транспартнай спулдзельні ў Беластоку. Экскурсія гэтая адбылася 27 чэрвеня на аўгустоўскія азёры. Аб арганізацыі гэтай экскурсіі многа клапаціўся сам дырэктар апякунчай адзінкі грам. Пэркоўскі. Для вучняў гэтай школы быў наняты прыгожы аўтобус з беластоцкай «Грамады». Важатым была Зофія Каралеўская, якая клапацілася аб экскурсантах, як аб сваіх родных дзецях. Першы раз у жыцці малыя экскурсанты бачылі катэр, ну і, вядома, плылі на ім.

**Мікола Краўчук**
Патока

### ...ІМЯ М. КУЖЫЛЬНАГА

23 чэрвеня у Вульцы Выганоўскай (Бельскі павет) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар памяці героя Савецкага Саюза Міколы Кужыльнага, загінуўшага ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі пры вызваленні Вулькі. На гэту ўрачыстасць прыехала маці і брат загінуўшага. Цяпер пачатковая школа ў Вульцы Выганоўскай будзе насіць імя Міколы Кужыльнага.

**Мацейка**
Дубяжын

### Дарагое Сэрцайка!

Ён працаваў у нашай вёсцы. Калі жыў у адной сям'і на другім канцы вёскі, прыходзіў да мяне штовечар. Гаварыў, што мяне кахае, што ажэніцца са мной. Я таксама пакахала яго і не магу ўявіць сабе жыцця без Марка. І так было 3 месяцы. Потым ён перабраўся на памяшканне непадалёк маёй хаты. Людзі, у якіх ён жыве цяпер, дрэнна жывуць з маімі бацькамі. Яны пачалі яго адмаўляць, каб ён не хадзіў да нас. А іх сын цэлы час датрымоўваў яму сяброўства, каб той толькі не ішоў да мяне. Марэк тыдзень часу не з'яўляўся ў маёй хаце. Потым моцна захварэў і забралі яго ў шпіталь, дзе праляжаў месяц часу. Не напісаў да мяне ніводнага пісьма, а гаспадыня, дзе ён жыве, хадзіла і па ўсёй вёсцы гаварыла, што Марэк са мною і так не ажэніцца, што ён не пойдзе да мяне, пакуль будзе жыць у яе. Мне тады вельмі цяжка было. І вось праз месяц часу Марэк вяртаецца ў нашу вёску да працы і, калі сустрэў мяне, сказаў «добры дзень». І гэта ўсё. Зрэшты, ён сядзеў з гаспадыні сынам на лаўцы. Але потым, калі сустракаў мяне самую,




зачапляў, прасіў, каб я з ім пагаварыла. Я не хацела нават з ім гаварыць аднаго слова. Адказвала толькі на прывітанне і ішла далей. А калі прыходзіла дамоў, плакала ў падушку. Цяпер Марэк выехаў у водпуск да сваіх бацькоў. Я надалей кахаю яго і мне вельмі цяжка аб ім забыць. Што рабіць, Сэрцайка? Ці калі зноў Марэк, вярнуўшыся з водпуску, будзе хацеў са мной пагаварыць, згадзіцца, ці надалей паступаць так, як дагэтуль. Думала, што забуду, але не ўдаецца пакуль. Парай.

Ліда з Бельскага павета

**Дарагая Ліда!** Відаць, ты дзяўчына амбітная і гэта вельмі добра. Аднак бываюць выпадкі, што трэба здабыцца на адвагу і выслухаць кагось, хоць той мо і не заслугоўвае на гэта.

Таму ў тваім выпадку, калі ты кахаеш Марка, паспрабуй прымусіць сябе да таго, каб выслухаць яго. Мо ён ужо зразумеў, што брыдка паступаў, слухаючы якойсьці там гаспадыні, мо' ён аб гэтым хоча табе сказаць і перапрасіць. Варта гэта зрабіць, Ліда. Упартасць не заўсёды добрая.

Жадаю ўсяго найлепшага

**Сэрцайка**

### ЛЕДЗЬ ДАЙШОЎ ДА ХАТЫ

Ужо мінула паўгода, як прадаўцом у вёсцы Белкі, што ляжыць у Гайнаўскім павеце, з'яўляецца Уладзімір Кананюк. Прымаючы краму ў снежні мінулага года, не захацеў прыняць некаторых тавараў, бо яны ўжо тады былі сапсуты.

У гэтых таварах знаходзіцца фарба да тканін і цукеркі ў пачках на агульную суму каля 3000 зл. Так гэтыя тавары ляжаць паскладваныя ў скрынках і цякуць па кладоўцы. Калі 19 чэрвеня г.г. прадавец стаў скардзіцца перад крамным камітэтам, то я з зацікаўленнем пайшоў паглядзець на тыя тавары. Была гарачыня — і я быў босы. Уступіўшы ў салодкую плынь, якая цякла з цукеркаў, я ледзь дайшоў да хаты, пазбіраў па дарозе ўсе бляшачкі ад піва і так моцна забрудзіў ногі, што ледзь адмыў. Гэтую справу вельмі добра ведае старшыня па гандлёвых справах ГС у Нарве Іван Семянюк, які неаднойчы бачыў сапсаваныя тавары, а ніяк не можа прыбраць часу, каб спісаць іх і закапаць. Знае гэтую справу ўжо і старшыня ПЗГС у Гайнаўцы Кастусь Майсеня, які ўжо не раз напамінаў гандлёўцу з Нарві аб гэтым, але той заўсёды не мае калі пад'ехаць да Белак.

М. Л.
Белкі

### ПАМІНАЕ КІНАПЕРАСОЎКА

Вёска Чаромуха не малая. Адлеглая ад станцыі Чаромухі каля 3 км. Няма тут ніякай культурнай разрыўкі. І хаця ў вёсцы ёсць клуб «Рух», людзі нудзяцца.

Жыхары Чаромухі каля 2 год намагаюцца, каб да іх прыязджала кінаперасоўка. Кожны месяц праз іх вёску кіно едзе да Кузавы. А яны таксама хацелі б аглядаць кінафільмы. Чаму ў іх нельга дэманстраваць кінафільмаў? Ёсць адпаведнае памяшканне (клуб «Рух» ці школа). Што трэба зрабіць, каб і да іх вёскі хоць раз у месяц прыехала кіно? Трэба павятовую страж прывезці, каб яна закваліфікавала памяшканне на высвятлянне фільмаў.

**Кактус**
Чаромуха



**Вербы каля вёскі Падбаравіска.**

Фота: Янка Цялушэцкі
Новае Ляўкова

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Tu radio Gliwice" (NRD), 23—24. „Zaufaj mi Anno" (bułgarski), 25—26. „Sobótki" (polski), 27—28.

**Нараўка**

„Fanfan Tulipan" (franc.), „Głosuję na miłość" (jugosł.), 24—28.

**Нарва**

„Chewzburska ballada" (radz.), „Trema" (USA), 24—28.

**Чыжы**

„Fanfan Tulipan" (franc.), „Głosuję na miłość" (jugosł.), 24—28.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Marysia i Napoleon" (polski), „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 24—28.

**Орля**

„Nikt nie chciał umierać" (radz.), „Skąpani w ogniu" (polski), 24—28.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Falstaff" (hiszpański), 23—24. „Sobótki" (polski), 25—26. „Daleka jest droga" (polski), 27—28.

**Міхалова**

„Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 23—24. „Daleka jest droga" (polski), 25—26. „Hatari" (USA), 27—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 27—28.

**Ліпск**

„Lebiediew contra Lebiediew" (radziecki), „Dr Fabryzus działa" (NRD), 27—28.

Абст звяртаецца да Вальтэра: — Як справы на камбузе?

— Абед будзе праз дзве гадзіны, шэф.

— Дзве гадзіны — гэта доўга. Нашы госці не могуць чакаць. Вось што, прынясіце кансерваў — чатыры бляшанкі свініны з бабамі і чатыры вялікія сухары. Для лейтэнанта вазьміце што-небудзь больш далікатнае. Скажам, кубак кофе з майго тэрмаса і бісквіты. Вы зразумелі?

— Так, шэф.

— Кансервы бярыце самыя свежыя. Вам ясна?

— Ясна, шэф. — Радыст пераглядваецца з Абстам. — Я ўсё зразумеў.

— Ну і дасканала.

Канваір знікае ў тунелі.

Абст звяртаецца да італьянцаў:

— Спадзяюся, вы задаволены?

— Проста шчаслівыя! — скрозь зубы цэдзіць Пела.

На пляцоўцы запанавала маўчанне.

Праходзіць некалькі мінут.

І вось Вальтэр вяртаецца. У руках яго паднос, на якім кубак кофе, бісквіты і кансервы.

— Можна раздаць, шэф.

— Зразумела.

Вальтэр перадае кофе з бісквітамі лейтэнанту, затым абходзіць яго спадарожнікаў.

Італьянцы разбіраюць кансервы. А немцы назіраюць.

У круглых вачах Вальтэра вострая цікавасць. Глюк больш спакойны: стаіць, палажыўшы рукі на аўтамат, і чакае. Абст пастуквае пальцамі па каленах, быццам адлічвае секунды.

Зараз гэта павінна здарыцца.

І вось з чацвярыма палоннымі нешта здарылася. Яшчэ нядаўна яны нахіляліся адзін да аднаго, перагаворваліся. Цяпер італьянцы быццам дрэмлюць з адкрытымі вачыма.

Перамена, якая адбылася з салдатамі не скрылася ад іх камандзіра. Спярша ён толькі ў разгубленасці. Але праходзіць час — і лейтэнант ужо ў трывозе.

Абст ловіць на сабе разгублены позірк лейтэнанта.

— Што ж вы стаіце, Глюк? — нездаволена гаворыць ён. — Ну, зніміце браслеты з гэтых няшчасных.

Неўзабаве раскаваны ўсе чацвёра.

— Гатова, шэф.

— Адвядзіце людзей.

Глюк дае каманду і палонныя ідуць за ім у тунель.

— Адпраўляйцеся і вы, — звяртаецца Абст да Вальтэра. — Зашыфруйце і перадайце ў эфір: «У мяне ўсё ў парадку».

— Ясна.

Цяпер Абст сам з афіцэрам.

— Ну што вы скажаце, дарагі Джорджа Пела? Як вам падабаецца ў мяне, якія ўражанні?

— Вызвальце мне рукі, — ціха гаворыць італьянец.

— Ахвотна.

Абст спрытна знімае браслеты, кідае іх убок.

— А цяпер я запрашаю вас абедаць. Мы разам паабедаем і пагаворым. Ідзем!

**(Працяг будзе)**

### ЧАМУ ТАК ДЗЕЕЦЦА?

У Скупаве ёсць злеўня малака. Гайнаўскія ўлады былі зліквідавалі злеўню, але дзякуючы старанням жыхароў вёскі злеўня ў Скупаве зноў існуе. Зляўняркай з'яўляецца Зоя Анішчук. Некаторыя жыхары вёскі задаволены ёю, але ёсць такія, што і незадаволены. Але ж гэта ўжо вядома, што адзін чалавек дагадзіць усім не можа. У апошнім часе збольшылася колькасць дастаўцаў малака.

Але тут іншая справа. Пад канец красавіка Зоя Анішчук злажыла просьбу да гайнаўскай малачарні, каб яе звольнілі з пасады малачаркі, а на яе месца прынялі Ірэну Адамовіч. Ірэна Адамовіч злажыла просьбу да Гайнаўскай малачарні, каб яе прынялі на месца Зоі Анішчук. Просьбу пацвердзіў камітэт дастаўшчыкаў. Улады малачарні сказалі, каб яна зрабіла карту здароўя, тады будзе прынята.

Прайшло ўжо два месяцы і карта здароўя зроблена, а нічога не змянілася. Зоя Анішчук як працавала, так і працуе.

Ірэна Адамовіч пакрыўджана, таму што яе ашукалі. Яна некалькі разоў хадзіла да Зоі Анішчук вучыцца прымаць малако. І колькі часу трэба было страціць, каб атрымаць карту здароўя.

Навошта выбралі камітэт дастаўцаў, каб толькі фігураваў на паперы? Ці яны могуць парушыць гэту справу? Ірэна Адамовіч не хадзіла прасіць, каб яе прынялі на зляўнярку. А цяпер з яе проста насмяяліся.

Жыхар Скупава



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP: Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6957

